Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Цана 25 гр.

№ 1 Вільня, 25 лютага 1933 г. Год X.

# Авадзень

Гумарыстычны ілюстраваны дватыднёвік.




КРЫЗЫС — Дагалю спажыўца да канца, а гандаль з прамыслам і самі згалеюць...

# ДА ЧЫТАЧОЎ.

Прачхнуўся Авадзень ад доўгага сну.

Працёр вочы. Сабе думае: „Адпачыў добра, — пара ляцець... а куды? Гм... У сьвет, шукаць даўных знаёмых, пазнацца з новымі... Прыглядзецца да іхняга жыцьця, пацешыцца з добрага, пасьмеяцца са злога“.

Прачхнуўся Авадзень... Зімна ў хаце.

„Што гэта?! вокны пазамерзаўшы! Зіма!“ Сабе думае: „Як-жа і куды ляцець сьцюжаю гэткай?

Аднак... спаць німа ахвоты... Цёпла на сэрцы... Адвага ёсьць. Хочацца сваіх бачыць, даць ім шмат чаго новага цікавага“...

Апрануўся Авадзень як можна цяплей, адчыніў дзьверы... Марозам — імглой яго абдало. „Добра (сабе думае)! хай-бы ўдалося мне, напрыклад, даляцець да вёскі... а там...

Можа не дастукаюся ў хаты пагрэцца, а тады што?! Замёрзнуць (як анэгдай чалавек з табакай на Літоўскай граніцы“!).

Моцна задумаўся Авадзень, нават назад у хату падаўся... Аж пачтальён шусьць у дзьверы.

— Пісьмы і грошы для Авадня, — кажа.

— Грошы на дарогу патрэбны, — пацешыўся Авадзень, — а пісьмы адкуль? — запытаўся.

— Ай, паночку, са ўсіх куткоў Беларусі, — казаў пачтальён.

Адпечатаў першы ліст — чытае: „добра што нарэшце ізноў паказаўся наш дарагі Авадзень“...

У другім пісьме было напісана:
„Нехай-жа лётае вясёла
І не баіцца ён зімы —
Бо на дварэ не застанецца:
Яго у хаты пусьцім мы“.

Прачытаўшы гэтыя і ім падобныя пісьмы Авадзень дальш не марудзіў. Запакаваў цікавыя апаведаньні, жарты і гумар у кашолку, ды гайда ў дарогу да сваіх прыяцеляў...

Васан.

Кожны новы падпішчык — гэта ўжо прыяцель „Авадня“ і шчыры грамадзянін.

# ЦІ ЛЁГКА...

Ня лёгка ў зімку лётаць босым —
Аднак ужо даволі сну!
Мароз, халодна.. але носам
Я чую блізка ўжо в я с н у.

Я чаравікі мерыў, боты,
Ды ўсё не на маю нагу,
А заказаць німа ахвоты —
Бо дальш сядзець я не магу.

Ды як-жа! (праўду Вам сказаці)...
Тады, як к р ы з ы с гне народ
Мне, Авадню, сядзець у хаце!..
Сядзець закрыўшы шчыльна рот!?

Эй, не! Калі сабе хто й можа, —
Дык хай сядзіць, ну я то не!
Ляту... Калі нагу й змарожу
Дык не адна-ж яна ў мяне.

Але спаткаўшыся з к р ы з ы с а м
Уткну яму жыгала ў бок
Дам зьмену твары яго рысам..
Ух, пабяжыць ён, гэны смок!

А я за ім, — ды ўсё жыгалам
Туды сюды яго парну.
(Каб бег хутчэй). Са мною малым
Бальшы прайграе ён вайну.

Дагэтуль панаваў на сьвеце
Нігдзе ня ўстрэўшы ваякоў..
Досыць! Мне спрыкрыла глядзеці
Як пьеш ты, смок, людзкую кроў!

Даволі! досыць ты зьдзікаўся
Народ трымаючы ў бядзе!
Калі-ж са мной ужо спаткаўся —
Канец, к а н е ц т а б е ідзе!

Авадзень.

# КРЫЗЫС І Ё-Ё

„Крызыс, крызыс“! — чую крыкі..
Дзе-ж ён, людзі? — Ня відно!.,
Гляньце: ўсе — малы й вялікі —
Забаўляюцца ў ё—ё.

Выкрутасьнік — падшывалец,
Даганяючы сваё,
Завязаў шнурок на палец —
Забаўляецца ў ё—ё.

Вучань-школьнік, і дзыбаты,
Формай сьціснула яго
Йдзе — бяжыць у школу з хаты —
Забаўляецца ў ё—ё.

Вось паненка — малявана,
Модай шытае усё,
Разадзетая, прыбрана —
Забаўляецца ў ё–ё.

І студэнт — мо' доктар будзе,
Адвакат ці прост ніхто...
Не пазнаць, мае вы людзі —
Забаўляецца ў ё–ё.

Зноў паніч — з партфэлем кроча
Пэўне з важнага бюро,
У ніз глядзяць шкляныя вочы —
Забаўляецца ў ё–ё.

Паня — нават і паважна,
Не таўхне яе ніхто,
Йдзе з бабулькаю адважна —
Забаўляецца ў ё–ё.

Нават пан — такі шаноўны,
Важнасьць пыхае з яго...
Хто яму на сьвеце роўны! —
Забаўляецца ў ё–ё.

Так паны і паняняты,
Бога хвалячы й жыцьцё,
І басьпечна і заўзята
Забаўляюцца ў ё–ё.

„Крызыс, крызыс“! Ен далёка,
У сялянаў аж, ці што..
Дык пакуль нам сьвецiць вока
Забаўляймася ў ё–ё.

Улад—Іпіцкі.

# Банадысь і Акуліна

Банадысь і Акуліна
Хоць і верай не дабраны
Пакахаліся на дзіва
Проста раптам, не чакана.
Банадысь па роду шляхціц,
Каталік быў, ды заўзяты!
У касьцёл хадзіў з кантычкай
У нядзелю і у сьвята.
Акуліна-ж праваслаўна
Не такая ўжо гарача
Адаб'е паклон Міколе
І глядзіць, ці хто ня бача...
Час ляцеў,—каханьне з часам...
І ў галовы нашай пары
Думку цьвёрдую нагнала:
Стаць нарэшце пры аўтары.
Ен гавора — „У касьцеле
Трэба, мілая пабрацца“.
А яна: — „мой даражэнькі,
У царкве лепш павянчацца“.
Ен сярдзіта: — „ксёндз хай зьвяжа
Рукі нашыя стулою!“
Акуліна ж: — „не, не! ў цэркві
Нас пакруцяць ля налою“.
І спрачалася так пара
Мейсца шлюбу ўсё шукала..
Аж нарэшце прыйшоў розум:
Жыць зусім бяз шлюбу стала.
А на вёсцы йшла гаворка,
Бабы, дзеўкі — ўсе бубнілі:
„Гэта ж (кажуць) злыдні мусіць
З польскім руску пажанілі“.

---

Так жывуць з сабою згодна
Банадысь і Акуліна..
Толькі вось прышло няшчасьце:
Трэба ўжо хрысьціці сына.
Тут кумы прыйшлі, суседзі
І хрысьціны пачаліся,
А бацькі імя прыдумаць
Для сынка свайго ўзяліся.
Муж і кажа: — „Бахурочка
Будзем зваці так: Ізыдар“.
Жонка-ж не: „свайго сыночка
Ахрышчу лепш імем Сідар“.
Бацька кажа: „Сідар — проста...
Прыгажэй ужо: Грыгоры“.
Маці-ж злосна: „Што ты, дурань
Горы, горы — лепш Прахоры“.
І такая вышла спрэчка,
Што хрысьціны адлажылі,
А бацьком кумы й суседзі
Пры адходзе адпалілі:
„І чаго вам, добры людзі,
Гэтак з хрэзьбінмі вазіцца,
Не ксяндзы вае пажанілі,
Не ў ксяндза-ж будзе хрысьціцца“.

Улад—Іпіцкі.




■ Беларусы ў Літве адкрываюць Беларускі Народны Унівэрсытэт, а ў нас... забыліся аб пачатковых школах.

■ Газэты паведамляюць, што пасол Ярэміч 4 лютага г.г. меў у Сойме прамову аб палажэньні беларусаў у Польшчы. Дзякуй яму—адважыўся гаварыць мала, скажа калі-небудзь болей.

■ За тыдзень пачнецца для веруючых Вялікі Пост. Даўней хрысціяне ад Серады Папельцовай аж да Вялікадня ня елі мяса, ня пілі малака, а тым-болей гарэлкі.

„Беларуская Крыніца" ў апошнім нумары зьненавідзіўшы, ласьне, гарэлку — падняла сьцяг „вайны з пьянствам". Кліча ўсіх да цьвярозасьці. Чаму-ж не раней з гэтым?! А бо.. Беларусы заўсёды позьняцца.

■ Грамадзяніну С. спрыкрылася званіць у „Беларускі Звон". Захацеў жыцьця іншага—дзеля таго пераехаў у свой „Родны Край" на адпачынак.

■ Ходзяць чуткі, што адзін з вядомых беларускіх выдаўцоў гр П.....вы атрымаў на конкурсе „таннага друку з найгоршаю паперай" першы прыз.

■ Ходзяць весткі, быццам вядомы беларускі мастак і аўтар кнігі „Нябесныя Бегі", аддаўшыся вывучэньню магчымасьцяў жыцьця на іншых плянэтах, адкрыў жыцьцё і на Месяцы.

Кажуць што мастак хоча туды перабрацца дзеля заснаваньня „Беларускай Калёніі".

■ Быццам знайшлося ўжо шмат ахвотнікаў, пераважна дзяўчат жадаючых перамены.

■ Чуваць быццам, аўтар паэмы пад кароценькім загалоўкам „Плач беларускай Зямелькі-Маткі над сваімі дзеткамі (сынкамі і дачушкамі) рэнэгатамі і рэнэгаткамі", — маніцца выпусьціць у сьвет яшчэ адзін свой твор, але ўжо шмат большы за папярэдні і з двойчы даўжэйшым загалоўкам.



## З важнага роду.

Спаткаліся на кірмашы двух вясковых.

— Што чуваць у вас, браток?

— А нічога. Новы камандант да нас прыехаў.. ды, відаць, важнага роду.

— Чаму так думаеш?

— Бо, як толькі ён праходзіць вуліцаю, трэба яму нізка пакланіцца і шапку з галавы зьняць.

— Гм... а я дык-бы на злосьць не зьняў..

— Былі ў нас і гэткія адважныя, як ты... дык прычапіўся на вуліцы — знайшоў прычыну.

Некаторыя, каб пазбавіцца пасьля цяганіны, перапрашаючы хапаліся за ягоныя рукі.

Адзін дык кажуць стаў на калені... новы камандант гэта любіць.

— Гм... адкуль ён да вас прыехаў?

— Кажуць проста з Аршавы.

— Гм — Як гэткія прывычкі мае, а сам з Аршавы—тады магчыма што ён.. з важнаго роду.

## У фатаграфа.



Фатаграф наставіў апарат наўпроць твары вясковага чалавека ды кажа:

— Цяпер сядзіце спакойна, не варухніцеся .. Зараз-жа буду фатаграфаваць. Во так... Зрабіце „ліцо вясёлае". [redacted]

— Ніяк не магу... Заўчора сэквэстратар мяне скрыўдзіў.. Дзень з ноччу плакаў я (вясковы разжаліўся–зморшчыўся да плачу).

— Успакойцеся, а то ліцо будзе марсклівае.

— Хай сабе марсклівае, але затое, прынамся, праўдзівае.

# Дзьве долі.



Каму крызыс а каму „крызысік".

## Пустая спрэчка.

Спаткаліся стралец з рыбаком.

Стралец захацеў падшчыпнуць рыбака, ды кажа насьмешліва:

„Хто рыбу вудзе —
У таго хлеба ня будзе".

Рыбак выняў піпку з губы ды спакойна адказаў:

„А хто страляе —
Той даўно хлеба ня мае".

## Важная прычына.

— Настасься! Ня рупішся, нешта, аддаць пазычаную у мяне саланіну... Хаджу — хаджу... аж спрыкрыла..

— Прыпомні, Ганначка, колькі - ж разоў я хадзіла да цябе, пакуль ты мне гэту саланіну пазычыла!

## З падслухананага.

Кавалер - асаднік сустракае знаёмую дзяўчыну:

— Дзень добры. Власьне былэм у пані... Хцялэм помувіць.

— Пан памыліўся. У нас няма лазьні... Толькі ў Рыгора.

— Власьне гожэй... Але пуйдзем, цось повем — бяручы за руку дзяўчыну гавора асаднік.

— Не, не, не паночку, — вырываецца дзяўчына — прыдзі пан у хату, а не ў лазьню..

У—І



## У шапачніка.

Практычны — скупы гаспадар, прадаўшы апошнюю карову на падаткі, зайшоў у краму купіць на галаву што - кольвек, бо шапка знасілася.

— Моўша! Дай мне саломянны брыль (капялюх).

— Што табе, Сяргейка, сталася?! На зіму саломянны брыль!

— А бо... спадзяюся лепшых гадоў... Куплю кароўку...

— Ну, а пры чом тут саломянны брыль?

— Як зносіцца і ня будзе годны на галаву, дык прынамся карова зьесьць...

## Бязногая жабрачка.

Бязногая жабрачка, якая сядзела пры ўваходзе ў касьцёл, ад радасьці плешча ў далоні.

— Што ты — кажуць — ашалела?

— Дзякуй Богу — прамаўляе жабрачка — ксёндз казаў, што грэшнікі пойдуць у пекл а ў мяне ног німа .

У—І.

## Згаварыліся.

Асаднік шукае каня з падцятым хвастом. Спаткаў селяніна і пытае:

— А чы не відзял жрэбака, пане?

— Тамака сядзіць — кажа селянін паказаўшы ўдаль, дзе рыбак лавіў рыбу.

— Бог заплаць — адказаў асаднік і скіраваўся ў той бок, куды паказаў селянін.

— А огон які? Ест подценты? — яшчэ запытаўся асаднік.

— Мае агонь, мае—ужо адышоўшыся гавора селянін.

— О, то не муй жрэбак — сам сабе сказаў асаднік і пайшоў у другі бок, скрабучы галаву.

У—І.

## Мала малака.

Доктар аглядзеў хворага, напісаў рэцэпт адходзячы кажа:

— Хворага карміць малаком і, калі пачуецца здаровым, зрабіць ванну.

— Пашкадуйце мяне, пане доктар — жаласна просіць жонка, трымаючы на руках дзіця— ванны я зраблю яму, але малака нямашака .. самі бачыце, малое яшчэ сасе грудзі, ды то не хапае... Пашкадуйце, пане доктар.

У—І.

## О каб-жа...

— Кажуць што Т-ва Бел. Школы у Вільні творыць на правінцыі бібліатэкі.

— О, каб-жа з гэнымі бібліатэкамі не сталася так, як .. з мыльнымі пузырамі.

## Магістрацкая дапамога...



... для бедных дзетак безпрацоўных.

## Разумны хлапчук.

Да пана ўлетку прыйшоў хлапчук прасіцца ганяць на пасту.

Пан пытае:

— Ці ты, гэткі малы, упасьвіш стада свіньней?

— Чаму-ж, — кажа, — упасу.

— Ну, добра, застанься,—пан кажа—заўтра пабачу.

На заўтра раніцай хлапчук выгнаў сьвіньней, каторыя разбрыліся ўраз-жа па ўсяму полю.

Пан падыходзіць да хлапчука, ды кажа:

— Чаму ты распусьціў гэтак сьвіньней! Як-жа царер ты іх сабярэш у гурт?

Хлапчук спакойна адказаў:

— Нічагусенькі, панок. Сабраць іх — як плюнуць. Нават далёка не пайду.

— Ну-ткі спрабуй.

Хлапчук схапіў у прыпол парасёнка ды... шмыгануў на дрэва.

Пан чакаў што з гэтага будзе.

Як засквірчэлі парасяты (бо хлапец іх тузгаў) дык свіньні са ўсіх бакоў пазрываліся, як шалёныя, ды ляцяць да пана... давай ірваць яго за штаны.

Пан у гвалт. Пачаў прасіцца:

— Пусьці хутчэй парасёнка, а то сьвіньні мяне загрызуць!

---

На другі дзень адбываўся у пана баль.

Гасьцей сабралося шмат.

Добра выпіўшы ды пад'еўшы пачалі гаварыць хтоль аб чым.

Пан зараз-жа пахваліўся сваім разумным пастухом.

Тут адзін з гасьцей, пан з суседняга фальварку, захацеў асабіста спраўдзіць розум хлапца. Паклікалі...

Пастушок прыйшоў ды стаў, невялічкі, ля дзьвярэй.

Тут пан-госьць падыйшоў трымаючыся ў бокі да хлапца, выцягнуўся як струна (быў і так высокі як жардзіна) ды кажа фанабэрліва:

— Калі ты такі разумны і хітры, як аб табе твой пан гавора, дык... пацалуй у мой нос не падскокнуўшы.

Хлапчук паглядзеў на падпітага пана, усьміхнуўся ды кажа спакойна:

— Скажу — Не разгневацца толькі.

— Але-ж кажы!

— Панок ад мяне разумнейшы, а таксама ня зможаш ніяк пацалаваць не нахіляючысь у мае, напрыклад, пяты.

Трабы, Св—ў.

## Надаела гаварыць..

Крамнік, па цэладзеннай працы выйшаў з жонкай прайсьціся троху.

Ішлі вуліцаю Міцкевіча у Вільні. Трэба было ім перайсьці на другі бок.

Крамнік замест казаць жонцы „перайдзём“, піхнуў яе, — чуць не завалілася.

— Чаму ты папіхаешся а маучыш?—скрыўджаная пытаецца.

Ен адказвае сярдзіта:

— Бо за цэлы дзень даволі мне аббіваць язык з кліентамі.

Ці паслалі Вы ўжо падпісныя грошы на „Авадня“?

# ДУМКІ.

(Бяз гумару)

## Чаму-ж гэта...

1. .. Беларускія партыі паміж сабой няўзгоде. На выдатных дзеячаў кідаюць балотам?..

Ці-ж усе Беларусы ня ёсьць дзяцьмі аднэй Маткі—Беларусі, а кожная партыя (па свойму) ці-ж не жадае лепшае будучыні.

2. ... Грамадзяне спатыкаючыся адзін з адным вітаюцца нібы-то шчыра — добрахвотна, а як адойдуцца — гатовы выліць вядро памыяў суседу на галаву.

3. ... Некаторыя паважныя асобы ня трымаюцца дадзеных словаў — а сваімі фалшывымі даклярункамі часта твораць крыўды тым, хто ім дасьць веры.

4. ... Бацькі караюць дзяцей за фальш, ашуканствы, гневы, заздрасьць, ругань, а самі не асьцарегаюцца гэтае моральнае брыдоты.

5. ... Багаты сыты абуты, апрануты ня хоча падзяліцца, з чалавекам голым, босым галодным?

Ці-ж не тая самая кроў ў іхных жылах цячэ! Ці-ж ня тоя самая цела! Ці-ж не аднолькова бязпомачныя на сьвет усе радзіліся!

6. ... Адзін працуе дзень з ноччу, не дасьпіць усюды дабяжыць — а другі .. дзень з ноччу адлежвае сабе бакі на печцы, цьміць бяз конца табаку (куплёную за апошнія грашы). б'е наракаючую на яго жонку, а калі куды выйдзе — дык прыходзіць п'яным!

7. ... Маладзенец з маладухай стоючы перад аўтаром прысягаюць любіцца, ўспамагаць адзін аднаго ў цяжкай падарожы жыцьця — а пасьля што бывае? б'юцца-праклінаюцца усё жыцьё.

8. ... Німа дабраты на сьвеце. Вечнае змаганьне чалавека з хваробай, чалавека, з чалавекам, нацыі з нацыяй, добра с) злом?

Хоць аднолькова сьвеціць і абагрэвае ўсіх Божае сонейка, хоць нармальна дождж дажджыць, а раса расіць зямельку, даючы багатую расьлінасьць і ядоміну гэтак капрызнаму чалавеку!



## Лішняе кола.

Гаспадар прывёз з гораду краўца, бо шмат чаго меў да шыцьця.

Кравец, чалавек бывалы і да ўсяго цікавы, заўважыў, што часы гаспадаровы на сьцяне вісяць а няйдуць.

За абедам разгаварыліся. Гаспадар казаў:

— Ніяк не магу падабраць дня, каб адвезьці часы ў горад направіць.

— Я направлю,— кажа кравец.

— Папраў, спрабуй.

Развінціў вінты, парасклядаў на стале і на падаконніку колкі...

Паздмухаў з калёсікаў пыл, пачаў складаць... Аднаму колку не знайшлося мейсца. Ня мог ён нігдзе яго дапасаваць.

Спрыкрыла капацца ў часах Глянуў — нікога блізка німа.

Шусьць за вакно лішняе колка, ды вакно зачыніў.

— Ну направіў, васпан, часы?—гаспадар пытаецца.

— Дзе там, аднаго кола не хапае.

— Можа на падлозе.. шукайце дзеці..

Не знайшлі.

Праз колькі дзён кравец выехаў.

Прыйшла суседка. Разгаварыліся аб краўцу, часох і, што колка нехапае.

— Пашукайце за вакном. Я была ў гародчыку і бачыла як ён кінуў нешта.

Шукалі—знайшлі. Сьмяяліся, бо зразумелі, што кравец хацеў быць разумным а аказаўся— не ў сваей талерцы.

## У судзе.

— Абвінавачаны! Ці пачуваецеся да віны, што ўкралі каня?

— Не, пане судзьдзя.

— ?

— Бо, калі яшчэ быў мальцам, усе казалі, што з мяне вырасьце злодзей... на тое-ж шчука, пане судзьдзя, каб рыба не спала.




ЯНУ ЦЮНЭЛЮ — Камплект „Авадня“ за пройшлыя годы вышлем па атрыманьні 3 зл.

МІХАЛУ ХРУЦКАМУ — Будзьце спакойны: „Авадня“ пасылаем.

УСІМ ДАЎНЫМ ПАДПІШЧЫКАМ — Просім падаць свой адрэс, каб мы маглі перасылаць Вам акуратна „Авадня“.

Падпісныя грошы на „Авадня“ атрымалі: ад гр. гр. Цюнэля, Сьвірыда, Мяцеліцы, Прадухі, Фурса, Пешко, Зайца, Хруцкага, Худніцкага, Матэлёнка, Бройко, Васілеўскага Яна, Яноўскага.

Шчыра дзякуем за добрыя пажаданьні і ахвяры у грашах гр гр. Адвардаму Будзько і Яну Васілеўскаму.

Усіх нашых прыяцеляў просім аб прысыланьні жартаў, невялікіх апавяданьняў, рысункаў.

З прычыны аграмаднай лічбы просячых прыслаць пробныя нумары „Авадня“ паведамляем, што пробныя нумары высылаюцца па атрыманьні пачт. значка 25 гр.

Рэдакцыя.



### Праца важней ад панства.

— Ці хацеў-бы ты быць панам?

— Чаму?

— Мог-бы добра апрануцца, смачна пад'есьці і.. і... адпачываць сабе.

— Не, сваток не хацеў-бы, бо тады ты сам назваў-бы мяне гультаём.

### У доктара-беларуса.

Фанабэрлівы пан з Польшчы пачуўшы ня чысты польскі акцэнт у гаворцы доктара-беларуса, кажа:

— Добжэ пан доктар лечы, але... муві цудзым акцэнтам.

— А пану што сягоньня важней — здароўе ці мой акцэнт?

— Але... в каждым разе...

— За тое па-беларуску пан ані бэ, ані мэ, ня зможа. Спрабуем? Што?

Пан застыдзіўся і вышаў нездаволены што атрымаў здароўе з рук беларуса.



**Падпісная цана на „Авадня“** (с дастаўкай да хаты):
На год 5 зл; на паўгода 2.50; на тры месяцы 1.25.
За граніцу ўдвая даражэй.
Гадавыя падпішчыкі атрымаюць прэмію.
Пробны нумар высылаецца па атрыманьні пачтовага значка за 25 гр.
Адрэс Рэдакцыі: **Wilno, Zamkowa 17 m. 7.**

Рэдактар-Выдавец А. ВАСІЛЕЎСКІ. Drukarnia Sp. Wytw. - Handlowa, Trocka 7.